ГОТЭМ, ЗАРАЗ

У МАІХ ВОРАГАЎ ТАЕМНАЕ ПАГАДНЕННЕ.

ЯНЫ ЛІЧАЦЬ, Я ПРА ЯГО НЕ ВЕДАЮ, АЛЕ ГЭТА НЕ ТАК.

ЯНЫ ДАМОВІЛІСЯ Ў ДЗЕНЬ МАЁЙ СМЕРЦІ ЗАПАЛІЦЬ НАД ГОРАДАМ БЭТ-СІГНАЛ.

ГЭТА БЫЛА ІДЭЯ ДЖОКЕРА. НЯБЕСНЫ АГОНЬ У МОЙ ГОНАР. ПАМЕРЛЫ КАЖАН, ПЕРАКУЛЕНЫ **НАГАМІ ДА ГАРЫ**.

ГЛЯДЖУ НА ЯГО І НЕ МАГУ ПАЗБАВІЦЦА АД ПАЧУЦЦЯЎ, ШТО ЎЖО ПАМЁР. РАСПАВЯДАЮ ПРА СВАЁ **ПАХАВАННЕ**...

# BATMAN: ENDGAME

## PART FIVE


WRITER
SCOTT SNYDER
PENCILLER
GREG CAPULLO
INKER
DANNY MIKI
COLORIST
FCO PLASCENCIA
LETTERER
STEVE WANDS
COVER
CAPULLO, MIKI & PLASCENCIA
VARIANT COVER BY
ANDY KUBERT & BRAD ANDERSON
HARLEY QUINN VARIANT BY
JILL THOMPSON
ASSISTANT EDITOR
MATT HUMPHREYS
EDITOR
MARK DOYLE
BATMAN
CREATED BY
BOB KANE

4 ГАДЗІНЫ НАЗАД

...З ГЛЫБІНАЎ ПАДПОЛЬНАГА СВЕТУ.

ТАК-ТАК. ГЛЯДЗІЦЕ, ХТО ПРЫЙШОЎ.

О, НЯХАЙ УБАЧЫЦЬ! МЫ РАСЦЁМ, І ЯМУ НАС НЕ СПЫНІЦЬ.

МАБЫЦЬ, ПЕРАД ТЫМ ЯК ВЫХВАЛЯЦЦА, СПЫНІЦЕ ГЭТЫ **ПРАЦЁК**? А, НЕ ЗДАГАДАЎСЯ, ВЫ Ж НЕ **МОЖАЦЕ**.

ВЫ РАСЦЁЦЕ НАСТОЛЬКІ, НАСКОЛЬКІ Я ВАМ ДАЗВАЛЯЮ.

ТЫ САПРАЎДЫ Ў ГЭТА ВЕРЫШ? ТЫ ЯШЧЭ НАВАТ НЕ ВЕДАЕШ, ШТО МЫ ТУТ ЗРАБІЛІ. ГЭТЫЯ ЗУБЦЫ ВАКОЛ...

**ДАСТАТКОВА**. Я ПРЫЙШОЎ СЮДЫ З-ЗА ВІРУСА, ЯКІ ВЫПУСЦІЎ ДЖОКЕР, Я НЕ МАГУ ЗЛАДЗІЦЬ З РЭЧЫВАЎ У ЯГОНЫМ ЯДЗЕ.

«МНЕ ТРЭБА ЗНАЙСЦІ ЯГО. А ДОКТАР, ЯКІ ЯГО СТВАРЫЎ, РАСКАЗАЎ ПРА РАСКОПКІ СТАГАДОВАЙ ДАЎНІНЫ, СПРОБЕ ЗНАЙСЦІ ГЭТА РЭЧЫВА ПАД ГОТЭМАМ».

«ЁСЦЬ ТОЛЬКІ АДНА АРГАНІЗАЦЫЯ, У ЯКОЙ БЫЛІ СРОДКІ І ЖАДАННЕ ЗРАБІЦЬ ПАДОБНАЕ».

ВЫ.

БО ЁН У ВАС ЁСЦЬ, ГЭТЫ **ДЫЯНІСІЙ**. ЁН У СПЛАВЕ, ЯКІ ВЫ ВЫКАРЫСТОЎВАЕЦЕ, КАБ ВЯРТАЦЬ КІПЦЮРОЎ.

ТАК. МЫ ШУКАЛІ. АЛЕ ЗНАЙШЛІ ТОЛЬКІ САПСАВАНУЮ ВЕРСІЮ.

ЯНО Ў НАШЫМ СПЛАВЕ. І ПАКОЛЬКІ ЦЯПЕР У НАС ЁСЦЬ КАТАЛІЗАТАР, ЯНО СЛУЖЫЦЬ НАШАЙ **МЭЦЕ**. АЛЕ ПА ЧАСЦІНІ ЯНО НЕ МОЖА НІЯКІМ ЧЫНАМ ПАРАЎНАЦЦА З ТЫМ, ШТО ЗНАХОДЗІЦЦА Ў КРЫВІ **ГЭТАГА** БЛАЗАНА.


ГЭТЫ **БЛАЗАН** РАЗБУРАЕ ГОРАД.
КАЛІ ВЫ НЕ СКАЖЫЦЕ МНЕ ПРАЎДУ ПРА ТОЕ, ДЗЕ ЁН МОГ ЗДАБЫЦЬ ГЭТА РЭЧЫВА, УСЕ МЫ: Я, ВЫ, **УСЕ**... УВЕСЬ ГОРАД ЗАГІНЕ. ЁН...




ПСС. **НАВЕР-СЕ.**




МЫ ЗАЎСЁДЫ БУДУЕМ ІХ НАГАМІ Ў ГОРУ, БЭТМЭН, А ПОТЫМ ПЕРАВАРОЧВАЕМ І УСТАЛЁЎВАЕМ. МЫ РОБІМ ГЭТА, КАБ НАГАДАЦЬ САБЕ, ШТО МЫ ПАД ГОТЭМАМ, ШТО НАД НАМІ ЗАЎСЁДЫ ШТОСЬЦІ ЁСЦЬ.
МЫ ФАРМІРУЕМ ЯГО, ПАДПАРАДКОЎВАЕМ СВАЁЙ ВОЛІ, АЛЕ ЁН БОЛЬШ КОЖНАГА З НАС.


ТАМУ НЯХАЙ БЛАЗАЎ СПАЛІЦЬ ЯГО І ПОЙДЗЕ Ў ЯКОЕ-НЕБУДЗЬ ІНШАЕ МЕСЦА. ГЭТЫМ БЛАЗАНЫ І ЗАЙМАЮЦЦА. ГОРАД УЗДЫМАЕЦЦА ЗНОЎ, АЛЕ АЧЫШЧАНЫ. І МЫ ГЭТАМУ ПАСУДЗЕЙНІЧАЕМ. НОВЫ ГО...


БЭТМЭН...


...СУД СОЎ...


УХ!


...АСУДЗІЎ ЦЯБЕ...


...ДА СМЕРЦІ!



ТАК, Я ПАМРУ! МАБЫЦЬ НАВАТ АД ТВАІХ РУК! АЛЕ НЕ ТУТ! УХ... І НЕ ЗАРАЗ!
АРГГХ!




ТЫ АДЗІН З ПЕРШЫХ **КІПЦЮРОЎ**, ЮРАЙА! ТЫ БЫЎ ДА **ЎСЯГО** ГЭТАГА! ДА ХМАРАЧОСАЎ! КАЛІ ГОРАД БЫЎ З ЦЭГЛЫ І ДРЭВА! ЮРАЙА БУН!




...
Я КІПЦЮР. Я АДСЮЛЬ, НАЗАЎЖДЫ. ТЫ...




...ТОЛЬКІ ІМЯ, ВЫШКРАБАНАЕ НА СЦЯЦЕ!
УХ! СКАЖЫ МНЕ ТОЛЬКІ АДНО! ЁН БЫЎ ТАДЫ?




ХТО? СКАЖЫ! ХТО?
ЦІ БЫЎ ЁН ЧОО ГАДОЎ НАЗАД, КАЛІ ТЫ БЫЎ АКТЫЎНЫ? **ДЖОКЕР**. БЛЕДНЫ ЧАЛАВЕК.
БЫЎ?!

ГОТЭМ, ЗАРАЗ
Я ПРЫВУЧЫЎ СЯБЕ НЕ ДУМАЦЬ ПРА СМЕРЦЬ. НЕ **ВЕРЫЦЬ** У ЯЕ. ГЭТА БЫЛО ПЕРШЫМ І САМЫМ ВАЖНЫМ ЭТАПАМ ПАДРЫХТОЎКІ ДА ТАГО, КАБ СТАЦЬ БЭТМЭНАМ.
АПОШНІ РАЗ, ЯКІ ЗАПОМНІЎСЯ, КАЛІ Я БЫЎ УПЭЎНЕНЫ... САПРАЎДЫ ЎПЭЎНЕНЫ... ШТО ПАМРУ, БЫЎ, КАЛІ МНЕ БЫЛО ТРЫНАЦЦАЦЬ, КАЛІ Я ПРАВАЛІЎСЯ Ў ЦЕМРУ ПЯЧОРЫ.
У МЯНЕ ЁСЦЬ ДОСВЕД КЛІНІЧНАЙ СМЕРЦІ.
КАЛІ ДЗІК БЫЎ РОБІНАМ, ЁН ЖАРТАВАЎ, ШТО ВЫХОДНЫЯ НЕ БЫЛІ ЎДАЛЫМІ, КАЛІ МАЁ СЭРЦА НЕ СПЫНЯЛАСЯ ХАЦЯ Б ДВОЙЧЫ. ЁН ПЫТАЎ, ЦІ НЕ ЗАБЫЎ Я НА ГЭТЫ РАЗ ПЕРАДАЦЬ АД ЯГО ПРЫВІТАННЕ ЯКОЙ-НЕБУДЗЬ АКТРЫСЕ, ЯКАЯ ДАЎНО ПАМЕРЛА. ЗАБЫЎ? ТАДЫ НА НАСТУПНЫХ ВЫХОДНЫХ.
ЗЯМЛЯ НАБЛІЖАЛАСЯ ДА МЯНЕ, Я КРЫЧАЎ І ГЭТА ДУМКА ЎРАЗІЛА МЯНЕ... І ЎРАЗІЛА ГЛЫБОКА.
БРУС, СЁННЯ ТЫ ПАМРЭШ.
НЕ ПАМЯТАЮ СУТЫКНЕННЯ З ЗЯМЛЁЙ. ПАМЯТАЮ ТОЛЬКІ, ЯК ЛЯЖАЎ ТАМ У ПОЎНАЙ ЦЕМРЫ, УПЭЎНЕНЫ, ШТО ПАМЁР.

ГОТЭМ, ТРЫ ГАДЗІНЫ РАНЕЙ

СПАКОЙ ЦЕМРЫ БЫЎ ПРЫЦЯГАЛЬНЫ.

НАЗАД МЯНЕ ВЯРНУЎ ГУСТ У РОЦЕ. БРУДНАЯ ВАДА, МЕДНЫ ГУСТ **КРЫВІ**. МУХА, ЯКАЯ ПРЫЗЯМЛІЛАСЯ НА МАЕ ВУСНЫ.

І РАПТАМ УСЁ ВЯРНУЛАСЯ. Я БЫЎ ХЛОПЧЫКАМ, ЯКІ ЗГУБІЎСЯ Ў ПЯЧОРЫ. Я БЫЎ ЖЫВЫМ, АЛЕ ТРАВМІРАВАНЫМ І Ў АДЧАІ ЗНАЙСЦІ ВЫХАД З УСЁ ТАК ЖА СПАКОЙНАЙ ЦЕМРЫ.

ПЕННІ-ДВА ...КХА... НА СУВЯЗЬ.

Greg ♡ Jamie

БЭТМЭН! ТЫ ЗНАЙШОЎ **ДЫЯНІСІЙ**?

УХ. НЕ.

ШТО ГЭТА? У ТВАІМ ГОЛАСЕ. ШТОСЬЦІ **ЗДАРЫЛАСЯ**.

Я... Я СПРАБАВАЛА ЗВЯЗАЦЦА З ТАБОЙ... БЭТМЭН.

ГЭТА ЧАРТОЎСКІ ЖУДАСНА І Я...

ДЗЕТТТТКІ... ДЗЕ ВЫ?

**УСЁ** «ЧАРТОЎСКІ ЖУДАСНА», ПЕННІ-ДВА...


«І ЎСЁ СТАНОВІЦЦА ТОЛЬГІ ГОРШ».
А ГЭТЫ ДЗЕНЬ СТАНОВІЦЦА ЎСЁ ЛЕПШ І ЛЕПШ!


ОО, ТЫ ЯГО ЗАХАВАЎ.


BLAM


ЦЯБЕ СЮДЫ **НЕ** ЗАПРАШАЛІ!
ХІ... О, АЛЬФІ. ПРАВАЯ РУКА.


...ВЕДАЕШ, Я ВЫВУЧАЎ ЦЯБЕ З НАШАЙ АПОШНЯЙ ВЕЧАРЫНЫ...
ПАКАЖЫ СЯБЕ, ТРУС!
ТЫ БЫЎ ТРААКІГАМ НА ПІКАДЗІЛІДЗІЛІДЗІЛІ. Я БАЧЫЎ ЗАПІСЫ...


...І МАЯ ЛЮБІМАЯ ТВАЯ РОЛЯ – ГЭТА, КАНЕЕ-ЕШНЕ Ж, ШУТ З «**ЛІРА**»! ТЫ БЫЎ НАЙВЫДАТНЫ!
А Я Ў ЖАРТАХ РАЗБІРАЮСЯ! ХАХАХА!


ТАК НАТУРАЛЬНА, ДЖЫВС... БОЛЬШАСЦЬ ЛЮДЗЕЙ НЕ РАЗУМЕЕ, ШТО ГЭТЫ ШУТ ГЛЫБОКА Ў ДУШЫ ВЯЛІКІ ПАДМАНШЧЫК, САПРАЎДЫ?
ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ ЁН ЗДАЕЦЦА ТАКІМ АДДАНЫМ, А ПОТЫМ... ЯК ТОЛЬКІ Ў СТАРЫНЫ ЛІРА ПАЧЫНАЮЦЦА ПРАБЛЕМЫ, ЁН ЗНІКАЕ! У ШОСТАЙ СЦЭНЕ ТРЭЦЦЯЙ ДЗЕІ! ВЖУХ!
ЗАКРЫЙ СВОЙ МЯРЗОТНЫ РОТ!


ХАВАЕЦЦА ДЗЕСЬЦІ ЗА СЦЭНАЙ... ЗАЎСЁДЫ Ў БЯСПЕЦЫ. І НЕ КАЖЫ. АЛЕ МНЕ ЗДАЕЦЦА, ГЭТЫ ШУТ НЕ ТАКІ ЎЖО І ДОБРЫ ПРЫСПЕШНІК ДЛЯ КАГОСЬЦІ, АКРАМЯ СЯБЕ...


...ТАК?


АЛЕ ЗНОЎ ЖА, ШТО Я МАГУ ВЕДАЦЬ ПРА ТЭАТР?


ДАВАЙ ГЛЯДЗЕЦЬ ПРАЎДЗЕ Ў ВОЧЫ...


...Я ЗАЎСЁДЫ БОЛЬШ ЛЮБІЎ ІМПРАВІЗІРАВАЦЬ! ХАХАХАХАХАХ!


«БЭТМЭН?»

…
…БЭТМЭН, ТЫ ТУТ?
…ПЕННІ-АДЗІН, ЁН?..
















А ЧАМУ Б І НЕ?! ЧОРТ, У ШМАТ ЯКІХ МЕСЦАХ СВЕТУ СМЕРЦЬ СУПРАВАДЖАЕЦЦА **СВЯТКАВАННЕМ**!

ГЭТА МАЕ СЭНС, ТАК? ПРЫ ЖЫЦЦІ МЫ ЎВЕСЬ ЧАС ЗМАГАЕМСЯ...

...СПРАБУЮЧЫ НЕ ДУМАЦЬ ПРА КАНЕЦ, ГЛЯДЗЕЦЬ НА ТОЕ, ШТО ЁСЦЬ, І ШУКАЦЬ СЭНС, ШУКАЦЬ МЭТУ...

...І ЎСЁ ДАРЭМНА. НІЧОГА. ВЖЖУХ.

АЛЕ АХХХХ! АДВЕЧНЫ СОН. АДПАЧЫНАК! ДОЎГАЧАКАНЫ СПАКОЙ! ДЫК ДАВАЙЦЕ ЗРОБІМ ГЭТА! ДАВАЙЦЕ ГЛЯДЗЕЦЬ РАЗАМ! ГЛЯДЗЕЦЬ ЁЙ У ТВАР...

...ХТО ХОЧА ПАВЕСЯЛІЦЦА?!







ГОТЭМ, ЗАРАЗ
«У МЯНЕ ЁСЦЬ ПЛАН».






НУ ЖА, БЭТМЭН!

ДАВАЙ ПЕРАСТАНЕМ ВАЛЯЦЬ ДУРНЯ І ЗРОБІМ, ШТО ТРЭБА.
**СІНЯЯ ПТУШКА**, ХАХМАЧ СПРАВА.
Я З ІМ ЗЛАДЗІЛА. ВЕЛЬМІ ЛІТАСЦІВА, **БЭТГЁЛ**.
«СТОЙ, СТОЙ...»


ГОТЭМ, НА ГАДЗІНУ РАНЕЙ
...ГЭТА НЕ ПАДОБНА НА ПЛАН.
МЫ І КВАРТАЛА НЕ ПРАБЯРЭМСЯ СКРОЗЬ ГЭТУ **КАЛАТУШУ**.


НЕ, НЕ ПРАБЯРЭМСЯ.
АЛЕ РЭЧЫВА, ЯКОЕ МНЕ ПАТРЭБНА, КАБ СІНТЭЗІРАВАЦЬ **ЛЕКІ**, ЗНАХОДЗІЦЦА Ў СПІННЫМ МАЗГУ ДЖОКЕРА. Я СПАДЗЯВАЎСЯ ЗНАЙСЦІ ЯГО ЯШЧЭ ДЗЕ-НЕБУДЗЬ, АЛЕ НЕ АТРЫМАЛАСЯ. МНЕ ТРЭБА ГЭТА ЗЛУЧЭННЕ, ІНАЧ...


ЯНО **ПАТРЭБНА** МНЕ.


ТАК, ЁСЦЬ МАСКІ І МЫ.


ЯК ЗБІРАЕШ...
ГЭТА ЯШЧЭ НЕ **ЎВЕСЬ** ПЛАН.


ЭМ... БЭТМЭН? КАЛІ Ў НАШАЙ КАМАНДЗЕ РАТАВАННЯ ГОРАДА АД ЖУДАСНАЙ СМЕРЦІ ЎСЯГО ПЯЦЬ ЧАЛАВЕК, НАВОШТА ТУТ СТОЛЬКІ **МАСАК**?
ПАЦЕШНА, ШТО ТЫ СПЫТАЛА...


ЯК Я І СКАЗАЎ, У МАІХ ВОРАГАЎ ЁСЦЬ ДАМОВА. ЗАПАЛІЦЬ ПЕРАКУЛЕНЫ БЭТ-СІГНАЛ І АПЛАКВАЦЬ МЯНЕ...
...ТУТ, У ЭЙС ХЕМІКАЛС, ДЗЕ ЎСЁ І ПАЧАЛОСЯ.
У НАС БЫЛО ТАКОЕ Ж ПЫТАННЕ.
О, Я ЗРАЗУМЕЎ. ПАКУЛЬ ГОРАД ГАРЫЦЬ, ЧАМУ Б НЕ ЗГУЛЯЦЬ АПОШНІ МАТЧ, А?
ХЕХ. ЦІ ПЕРАКУСІЦЬ.
ПАЧНУ-КА Я З **ВЕГАНАЎ**. МІЛЫ КАСЦЮМЧЫК, ПАРНІШКА.

ЗАПХНІЦЕСЯ ЎСЕ!

СЛУХАЙЦЕ МЯНЕ. ВІРУС ЗМЯНЯЕ **НЕРВОВУЮ СІСТЭМУ** АХВЯРЫ, ПРЫМУШАЮЧЫ ПЕРАСЛЕДВАЦЬ УСЁ, ДА ЧАГО ЯНА **ПРЫВЯЗАНА**.

МЫ З МАІМІ ХАЎРУСНІКАМІ МОЖАМ СКАРЫСТАЦЦА ТАНЭЛЯМІ **ПАД** ЭЙС, КАБ ПАДАБРАЦЦА НАСТОЛЬКІ БЛІЗКА ДА **ПАРАДА**, НАКОЛЬКІ МАГЧЫМА, У МЕЖАХ АДНАГО КВАРТАЛА, АЛЕ КАЛІ МЫ ПАДЫМЕМСЯ НА ВУЛІЦЫ, НАС **ВОЗЬМУЦЬ У КОЛЬЦА**.

ТЫ ХОЧАШ СКАРЫСТАЦЦА НАМІ ЯК ЖЫВЫМ ШЧЫТОМ?!

БЯРУ СВАЕ СЛОВЫ НАЗАД. МНЕ ПАДАБАЕЦЦА ГЭТЫ ПЛАН.

НЯЎЖО?

ГЭТА ФАКТ.

МНЕ ТРЭБА ПАТРАПІЦЬ НА ГЭТУ **ПЛАТФОРМУ**, УСУНУЦЬ ШПРЫЦ У ХРЫБЕТНІК ДЖОКЕРА... ЯГО **ХРЫБЕТНІК**.

ПОТЫМ МНЕ ТРЭБА БУДЗЕ ЎЙСЦІ АДТУЛЬ ЖЫВЫМ **І** АДНЕСЦІ ПРОБЫ НА БАЗУ, ДЗЕ ЧАКАЕ МОЙ ЧАЛАВЕК, ГАТОВЫ СІНТЭЗІРАВАЦЬ І РАПЫЛІЦЬ ЛЕКІ.

ТАМУ ТАК, ГЭТА ДРЭННЫ ПЛАН. КАЛІ Ў КАГОСЬЦІ ЁСЦЬ ЛЕПШЫ, З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ ПАСЛУХАЮ.

НЕ? ТАДЫ ПАДВЯДЗЕМ ВЫНІКІ: ГЭТА **НАШ** ГОРАД. КОЖНАГА З НАС. І МЫ ПАВІННЫ АДАБРАЦЬ ЯГО Ў ЯГО, **ЗАРАЗ, РАЗАМ**, ЦІ ЎСЁ БУДЗЕ КОНЧАНА. **ДЛЯ ЎСІХ НАС. НАЗАЎЖДЫ**.

ДЫК СКАЖЫЦЕ МНЕ...

ГОТЭМ, ЗАРАЗ

«...ХТО СА МНОЙ?!»

ХІ-ХІ!

ВЫДАТНА.

А ЦЯПЕР, СЯБРЫ, МОЙ ЛЕПШЫ РОЗЫ-ГРЫШ...

TO BE CONCLUDED!

# THE LAST SMILE

WRITTEN BY JAMES TYNION IV
PENCILS BY DUSTIN NGUYEN
INKS BY DEREK FRIDOLFS
COLORS BY DAVE MCCAIG
LETTERS BY STEVE WANDS
BATMAN CREATED BY BOB KANE

«Я НЕ... Я НЕ ПАМЯТАЮ».

«ЁН НЕ ПРА ГЭТА КАЗАЎ. ГЭТА НЯПРАВІЛЬНЫ КАНЕЦ ГІСТОРЫ».

М-МЫ ІДЗЕМ?

ПРЫЙДЗЕЦЦА. МЫ ПАВІННЫ ЎБАЧЫЦЬ. МЫ ПАВІННЫ ВЫСВЯТЛІЦЬ...

СПРАВА НЕ Ў ТЫМ, ХТО З ВАС МАЕ РАЦЫЮ. ВЫ ПАВІННЫ ЎЖО ЗРАЗУ-МЕЦЬ ГЭТА. **ПАВІННЫ!**

Я БАЧУ ТОЛЬКІ... ЯШЧЭ АДЗІН КРОК НА ШЛЯХУ.

ГЭТА ЛІФТ, КЭССІДЗІ. ПРО-СТА НЕЙКІ СЛУЖ-БОВЫ ЛІФТ.

НЕ. ГЭТА ЯШЧЭ АДЗІН КРОК НА ШЛЯХУ ДА ІСЦІНЫ.

ПОЙДЗЕМ, ПОЙДЗЕМ.

**ХІХІХІХІ...** МЫ ІДЗЕМ...


ШТО ЗА ЧОРТ?


MARQUIS
PUBLISHING GROUP
НЕ. О БОЖА, НЕ.


ГЭТА НЯПРАВІЛЬНА.
ТУТ КНІГІ. ТУТ АДНЫ КНІГІ...
ГЭТА... ГЭТА ТУТ АДБЫВАЕЦЦА? ТУТ НАС **ЗАМЯНЯЮЦЬ**?


ГЭТА **НЯПРАВІЛЬНА**! ЁН ПАВІНЕН БЫЎ БЫЦЬ ТУТ. ЁН ПАВІНЕН БЫЎ ДАЦЬ НАМ **ПАРАДУ**!
БОЖА, КАЛІ ЛАСКА, **МНЕ ТРЭБА ВЕДАЦЬ**!


ЦІШЭЙ, ЦІШЭЙ...
...ЗАРАЗ ЧАРГА МІСІС ЧЭН.


У ЦЯБЕ ЁСЦЬ ГІСТОРЫЯ?
НЕ МАЯ ГІСТОРЫЯ. **ЯЕ** ГІСТОРЫЯ.


БАЧЫШ?

CLOWN PRINCE
The TRUE STORY of the JOKER
written by Dr. Mahreen Zaheer

НЕ... ГЭТА НЕ ПА ПРАВІЛАХ. ГЭТА НЯПРАВІЛЬНА. НЕ РАЗУМЕЮ... Я НЕ РАЗУМЕЮ.

ГЭТА ПАВІННА БЫЦЬ НЕ ЯНА, А ТЫ!

ЯКАЯ Ў МЯНЕ ГІСТОРЫЯ? ПЕРАРЭЗАЛА ЧАТЫРНАЦЦАЦІ ЛЮДЗЯМ ГОРЛА. ВУЧЫЛАСЯ ВЯЗАЦЬ. ДАКТАРЫ ХАЦЕЛІ РАЗМАЎЛЯЦЬ. **Я НЕ**. МНЕ ДА СРАКІ ВАШЫЯ ГІСТОРЫІ.

ЁН ЗРАЗУМЕЎ ГЭТА. ЗРАЗУМЕЎ, ШТО Я ПРЫКІДВАЮСЯ. СКАЗАЎ, ШТО ГЭТА БЫЎ ДОБРЫ ЖАРТ. МЫ РАЗАМ СМЯЯЛІСЯ. СКАЗАЎ, ЯМУ ПАДАБАЕЦЦА МОЙ СМЕХ...

...XII XIII XIII...

ЦЯПЕР ЯЕ ЧАРГА. НЯХАЙ ЦЯПЕР **ЯНА** РАСКАЗВАЕ.

НЕ РАЗУМЕЮ... ЧАМУ КАРЦІНА ТАКАЯ ВЯЛІКАЯ.

ГЭТА... ГЭТА ТОЕ, ШТО Я ДАСЛЕДВАЛА Ў АРКХЭМЕ. ПРАБЛЕМА, ЯКУЮ Я ІМКНУЛАСЯ ВЫРАШЫЦЬ ГАДАМІ.

*ПРЫНЦ-БЛАЗАН. САПРАЎДНАЯ ГІСТОРЫЯ ДЖОКЕРА. АЎТАР ДОКТАР МАХРЫН ЗАХІР

І Ў МНЕ ГЭТА НАРЭШЦЕ АТРЫМАЛАСЯ. ВЫХАД **КНІГІ** БЫЎ АНАНСІРАВАНЫ НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ.

ЁН ПРЫХОДЗІЎ ДА ЦЯБЕ?

НЕ! ЁН НЕ ПРЫХОДЗІЎ ДА МЯНЕ. ЯМУ НЕ ТРЭБА БЫЛО. ГЭТА НЕ ЯКАЯ-НЕБУДЗЬ ЗВАР'ЯЦЕЛАЯ ГІСТОРЫЯ, ЯКУЮ ЁН СПРАБАВАЎ МНЕ РАСКАЗАЦЬ. ГЭТА **ПРАЎДА**.

Я ПРАЦАВАЛА НАД ЦЯЖКІМ, ЦЯЖКІМ ДАСЛЕДВАННЕМ. Я ПРАЦАВАЛА НАД ІМ НЕКАЛЬКІ ГАДОЎ... І ЗА АПОШНІЯ НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ МЫ НАРЭЎЦЕ РАСКАЛОЛІ ЯГО.

Я ПРАЦАВАЛА Ў АРКХЭМЕ ЦЭЛУЮ ВЕЧНАСЦЬ. Я РАЗМАЎЛЯЛА З КОЖНЫМ ДОКТАРАМ, ЯКІ КАЛІСЬЦІ АНАЛІЗІРАВАЎ ДЖОКЕРА... ПРАЧЫТАЛА КОЖНЫ ДАКУМЕНТ... КОЖНЫ АРТЫКУЛ У НАВІНАХ.

ЁН АДЗІНЫ, ПРА КАГО ЎСЕ ТАК ДУМАЮЦЬ. АДЗІНЫ, КАМУ ПАДЫХОДЗІЦЬ **ЛЮБАЯ** ГІСТОРЫЯ, БО ДАВЕДАЦЦА, КІМ ЁН БЫЎ РАНЕЙ, НЯМА МАГЧЫМАСЦІ.

АЛЕ ЧАТЫРЫ МЕСЯЦА НАЗАД МЫ З МАІМ ПАРТНЁРАМ АДКРЫЛІ ІСЦІНУ.

ЁН НЕ САЛДАТ. ЁН НЕ Д'ЯБАЛ, НЕ РОБАТ І НЕ ЯКІСЬЦІ КАШМАР З ІНШЫХ ЧАСОЎ... ЁН ПРОСТЫ ЧАЛАВЕК. ВЕЛЬМІ ХВОРЫ ЧАЛАВЕК.

ХОПІЦЬ... ПЕРАСТАНЬ ІЛГАЦЬ...

«ЁН РОС У ШАСЦІ РОЗНЫХ ДЗІЦЯЧЫХ ДАМАХ. Я РАЗМАЎЛЯЛА З БАЦЬКАМІ. Я ЧУЛА **СТРАХ** У ІХ ГАЛАСАХ».

«ЁН БЫЎ **ЗАДЗІРАКАЙ.** ЁН НЕ ВЕДАЎ, ЯК НАБЫВАЦЬ СЯБРОЎ, ЁН ПРОСТА РАЗМАЎЛЯЎ З ІНШЫМІ ДЗЯЦЬМІ, ВЫКЛІКАЎ НЯНАВІСЦЬ У ІХ АДЗІН ДА АДНАГО...»

«ЁН **УЦЁК**, КАЛІ ЯМУ БЫЛО ШАСНАЦЦАЦЬ. ПРЫЙШОЎ У НЭРРОЎЗ. ЯГО СУСЕДЗІ РАСКАЗВАЛІ ГІСТОРЫІ ПРА ТОЕ, ЯК ЁН НАШЭПТВАЎ ШТОСЬЦІ ПАД ДЗВЯРАМІ ПА НАЧАХ...»

«ПАД ЧАС **НУЛЯВОГА ГОДА** ЗНАЙШЛІ ЦЕЛА Ў ШЧОЛАЧЫ СА СЛЯДАМІ ЯГО КРЫВІ, ЧЛЕНА БАНДЫ ЧЫРВОНЫХ КАЛПАКОЎ, МАБЫЦЬ, НАВАТ ЛІДЭРА... АЛЕ ЗАПІС ЗУБНОЙ ФОРМУЛЫ НЕ СУПАДАЕ».

ЁН **ПАДРАБІЎ** СВАЮ СМЕРЦЬ, КАБ САМОМУ СФАРМІРАВАЦЬ СВАЮ ГІСТОРЫЮ. СТАЦЬ ЧЫМСЬЦІ **НОВЫМ**...

**ЗАМАЎЧЫ! ЗАМАЎЧЫ! ЗАМАЎЧЫ!**

КЭССІДЗІ, ГЛЯДЗІ... ВОСЬ. ЯНЫ ТЫДНЯМІ ПРАВЯРАЛІ ІНФАРМАЦЫЮ І ГЭТА ДАЛА СВАЕ ВЫНІКІ. ВОСЬ ХТО ЁН НА САМОЙ СПРАВЕ. УСЁ, КІМ ЁН БЫЎ.

ЯГО ЗВАЛІ **ЎІЛЬЯМ ДЫСТАЛ**.

КАЛІ ЯМУ БЫЛО ЧАТЫРЫ, ЗНІКЛА ЯГО СЯСТРА. ЯГО БАЦЬКІ БЫЛІ ТАК НАПУЖАНЫ, ШТО АДМОВІЛІСЯ АД ЯГО.
















О БОЖА... О БОЖА... ПРАШУ...
ЭРЫК... ВАЗЬМІ ТРУБКУ. КАЛІ ЛАСКА!
BZZZZZ...
BZZZZZ...
BZZZZ...


ШТО? ЭРЫК?
Я АТРЫМАЎ ТВАЁ ПАВЕДАМЛЕННЕ, МАХРЫН.* ЛІЧЫШ, Я БЫ НЕ ПРЫЙШОЎ, КАЛІ МОЙ СЯБАР У БЯДЗЕ?
* ГЛЯДЗІ «БЭТМЭН #36»


ДЗЯКУЙ БОГУ... ГЭТА БЫЎ НЕЙКІ КАШМАР. ЖУДАСНЫ КАШМАР.
ГЭТА ДЖОКЕР... ЁН ДАВЕДАЎСЯ ПРА НАШ ПРАЕКТ. НАД ЯКІМ МЫ ПРАЦАВАЛІ ЎСЕ ГЭТЫЯ МЕСЯЦЫ.
ЁН РАСКАЗАЎ ІМ УСЕ ГЭТЫЯ ГІСТОРЫІ, І ЯНЫ Ў ІХ ВЕРАЦЬ, А ЦЯПЕР ЯНЫ ХОЧУЦЬ МЯНЕ ЗАБІЦЬ, БО Я РАСКАЗАЛА ІМ ПРАЎДУ.
АЛЕ ТЫ ТУТ. ТЫ ЗАЎСЁДЫ БЫЎ ТУТ І ЦЯПЕР МЫ РАЗАМ МОЖАМ РАСКВІТАЦЦА З ГЭТЫМ. ТРЭБА ПАТЭЛІЦЬ У ПАЛІЦЫЮ.


ХЕХ
...ХЕХЕХЕХЕ ХЕХЕХЕ...


НЕ... НЕ, НЕ, НЕ...
ОЙ, НУ ШТО ТАКОЕ, МАХРЫН... МЫ Ж БЫЛІ ТАКІМІ ДОБРЫМІ СЯБРАМІ. Я ЎСЁ ЯШЧЭ ПАМЯТАЮ, ЯКОЙ МІЛАЙ ТЫ БЫЛА, КАЛІ Я ПРЫЙШОЎ У АРКХЭМ.*
...І ПОТЫМ, ТЫМ ВЕЧАРАМ З ВІНОМ, СВЯЧАМІ І, ОХ, ТАКОЙ ПРЫГОЖАЙ МУЗЫКАЙ, ТЫ ПАКАЗАЛА МНЕ СВОЙ РУКАПІС.
*«БЭТМЭН: ШТОГАДОВІК #2»


МНЕ БЫЛО ТАК СУМНА БАЧЫЦЬ ПРАГАЛЫ, ЯКІЯ ТЫ НЕ ЗМАГЛА ЗАПОЎНІЦЬ. Я НЕ МОГ НЕ ДАПАМАГЦІ. МАБЫЦЬ, Я І ХАВАЎСЯ...
...АЛЕ Я НЕ МАГУ НІЧОГА З САБОЙ ЗРАБІЦЬ. МНЕ ПРОСТА ПАДАБАЕЦЦА ПРЫМУШАЦЬ ЛЮДЗЕЙ УСМІХАЦЦА.
ХЕХЕХЕ...

УСЁ, ШТО МЫ ЗРАБІЛІ...

О, ВЫДАТНАЯ ГІСТОРЫЯ, ЗГОДНА?

НЕ **НАСТОЛЬКІ** ВЫДАТНАЯ, ЯК ТАЯ, ДЗЕ Я **САКРЭТНЫ РОБАТ**. БІІП БУУП БІІП.

АЛЕ ТЫМ НЕ МЕНШ ДОБРАЯ.

Я З УСІХ МОЦАЎ ДАПАМАГАЎ ВЫДУМВАЦЬ ГІСТОРЫЮ, ЯКУЮ ТЫ ХАЦЕЛА.

ЯКАЯ БЫЛА ПАТРЭБНА ТАБЕ. ГІДКУЮ І ЖУДАСНУЮ ГІСТОРЫЮ ЗЛОДЗЕЯ. ЗА ЯКУЮ ВЫДАЎЦЫ АДДАЛІ Б ШАСЦІЗНАЧНУЮ СУМУ.

І, ЧОРТ ІХ БЯРЫ, МНЕ ПРЫЙШЛОСЯ ТОЛЬКІ ЗАПЛАЦІЦЬ ПАРЫ ВЫДУМАНЫХ БАЦЬКОЎ. НАПІСАЦЬ ПАРУ ДЗЯРЖАЎНЫХ ДАКУМЕНТАЎ. ГЭТА ЗРАБІЛА ЦЯБЕ **ТАКОЙ** ШЧАСЛІВАЙ.

...НАВОШТА?

...З ТОЙ ЖА ПРЫЧЫНЫ, ШТО Я НАВЕДАЎ **УСІХ** ІХ. ТЫ ХАЦЕЛА ВЕДАЦЬ, ХТО Я. ТЫ ХАЦЕЛА ПРАЎДЫ. СХАВАНУЮ САПРАЎДНУЮ ПРАЎДУ.

І ВОСЬ ЁН Я... КАЖУ ЯЕ ТАБЕ.

ШТО ГЭТА?

ПЯЦЬ КУЛЬ У ЦЫЛІНДРЫ. ПАКОЛЬКІ МЫ СЯБРЫ, Я ДАЮ ТАБЕ МАГЧЫМАСЦЬ **ВЫБРАЦЬ**.

ЧЫЯ ГІСТОРЫЯ, **НА ТВАЮ ДУМКУ**, САПРАЎДНАЯ, ТОЙ БУДЗЕ ЖЫЦЬ. ТАК Я СКАЗАЎ У САМЫМ ПАЧАТКУ.

АЛЕ Ж... **НІ АДНА** З ІХ НЕ САПРАЎДНАЯ?

ХМММ... ТАДЫ ВОСЬ ШОСТАЯ. НА ЎСЯЛЯКІ ВЫПАДАК.

ХЕХ.

Я... Я ВЫСТРАЛЮ Ў **ЦЯБЕ**.

НЕ, Я ТАК НЕ ДУМАЮ... ЯНЫ МОГУЦЬ ЎВАРВАЦЦА Ў ЛЮБЫ МОМАНТ, І МНЕ ТРЭБА **ІСЦІ**. НЯМА ЧАСУ НА ВЫСТРАЛЫ.

КУДЫ ТЫ ПАЙШОЎ?

ТУДЫ, КУДЫ ЗАЎСЁДЫ ЎХАДЖУ. У ТОЙ КУТОК ЗАДНЯЙ ЧАСТКІ ТВАЁЙ ГАЛАВЫ, ДЗЕ ХАВАЕЦЦА ЎСЁ **ГОРШАЕ**.

ВОСЬ АДКУЛЬ Я НА САМОЙ СПРАВЕ. ВОСЬ У ЧЫМ **САПРАЎДНАЯ** ПРАЎДА.

ХАХ. ЦІ НЕ.

МНЕ БОЛЬШ ПАДАБАЕЦЦА НЕ ДУМАЦЬ ПРА ГЭТА ПЫТАННЕ ТАК, БЫЦЦАМ НА ЯГО ПАТРЭБНЫ АДКАЗ.

ЭРЫК? **ЭРЫК**?!

АМАЛЬ АТРЫМАЛАСЯ...

О БОЖА...

УСЯГО... УСЯГО АДЗІН ШТУРШОК...

О БОЖА МОЙ...

CRASH

CLOWN PRINCE

...N PRINCE

...TORY of the JOKER

Dr. Mahreen Zaheer

ACKNOWLEDGEMENTS

I could have never written this work without the help of my dearest friend and colleague, Eric Border. It was his tireless research that allowed me to piece together the story I'd been chasing for years. I remember the night I told him I planned to write the true story of the Joker. The way he looked at me, I couldn't read him for a second, but then he smiled so wide it made my heart leap.

"Now that's a story I'd read in a heartbeat," he said.

Well here it is, my dear, I hope you enjoy it.

From the desk of DR. MAHREEN ZAHEER

BLAM BLAM
BLAM BLAM
BLAM BLAM

THE END